# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1931
ЛІСТАПАД
СЬНЕЖАНЬ
№ 22-23





Новы элеватар у Гомелі, які скончан пабудовай да 14 гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі

Фото МАЗЭЛЕВА

**ЗЬМЕСТ:** І. Сталін—Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму. С. Бройдз—Фабрыка чалавекаў. Я. Ш.—Першая конфэрэнцыя МенАПП. Іл. Б.—Пісьменьнік на службу соцыялістычнаму будаўніцтву. Р. Канавалаў.—Колгасьнік Каліна. Ф. Выхадцаў—4-я Усебеларуская мастацкая выстаўка. Юр. Лявонны—Інжынэр Гехт. Ноч на пагрузцы торфу. С. Астрэйка.—Дэпэшы з прышласьці. Ус. Шыдлоўскі—Пляма на кажусе. Бібліографія. Шахматы.




Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

XVIII





1931 № 22-23 ЛІСТАПАД СЬНЕЖАНЬ

АДРАС РЭДАКЦЫІ МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 69 ТЭЛЕФОН 17—09




**ЛІТАРАТУРНАЯ СПРАВА павінна стаць часткай АГУЛЬНА-ПРОЛЕТАРСКАЙ СПРАВЫ**

ЛЕНІН

---

**Творча-выхаваўчую РАБОТУ З УДАРНІКАМІ Ў ЦЭНТР УВАГІ пролетарскіх літаратурных організацый**

чальнымі. Чаму, на якой падставе? Хіба ўсім вядомых дакумантаў па лініі II Інтэрнацыяналу, таксама як і па лініі ўнутрыпартыйнага змаганьня ў расійскай соцыял-дэмократыі невыстарчальна для таго, каб з усёй яснасьцю дэманстраваць рэволюцыйную непрымірымасьць Леніна і бальшавікоў у іх змаганьні супроць опортуністаў і цэнтрыстаў? Ці знаёмы наогул Слуцкі з гэтымі дакумантамі? Якія яму патрэбны яшчэ дакуманты?

Дапусьцім, што апрача ўжо вядомых дакумантаў будзе знойдзена куча другіх дакумантаў у відзе, скажам, рэзолюцый бальшавікоў, лішні раз трактуючых аб неабходнасьці зьнішчэньня цэнтрызму. Ці значыць гэта, што наяўнасьці толькі папяровых дакумантаў даволі для таго, каб дэманстраваць сапраўдную рэволюцыйнасьць і сапраўдную непрымірымасьць бальшавікоў у адносінах да цэнтрызму? Хто-ж, апрача безнадзейных бюрократаў, можа пакладацца на адны толькі папяровыя дакуманты? Хто-ж, апрача архіўных крыс, не разумее, што партыі і лідэраў трэба правяраць па іх *справах*, перш за ўсё, а ня толькі па іх дэкларацыях? Гісторыя ведае ня мала соцыялістаў, якія з гатоўнасьцю падпісвалі любыя рэволюцыйныя рэзолюцыі, каб адпісацца ад назольных крытыкаў. Але гэта яшчэ ня значыць, што яны *праводзілі ў жыцьцё* гэтыя рэзолюцыі. Гісторыя ведае, далей, нямала соцыялістаў, якія з пенай ля роту патрабавалі ад рабочых партый *іншых* краёў самых якія толькі ёсьць рэволюцыйных дзействаў. Але гэта яшчэ ня значыць, што яны *не пасавалі* ў сваёй уласнай партыі або ў сваім уласным краі перад *сваімі* опортуністамі, перад *сваёй* буржуазіяй. Ці не таму вучыў нас Ленін правяраць рэволюцыйныя партыі, плыні, лідэраў не па іх дэкларацыях і рэзолюцыях, а па іх *справах*?

Ці ня ясна, што калі Слуцкі сапраўды хацеў праверыць непрымірымасьць Леніна і бальшавікоў у іх адносінах да цэнтрызму, ён павінен быў зрабіць *асновай* свайго артыкулу не пасобныя дакуманты і два-тры асабістых пісьма, а праверку бальшавікоў па іх *справах*, па іх *гісторыі*, па іх *дзействах*? Хіба ў нас, у Расійскай соцыял-дэмократыі ня было опортуністаў, цэнтрыстаў? Хіба бальшавікі не вялі рашучае непрымірымае змаганьне з усімі гэтымі плынямі? Хіба гэтыя плыні ня былі зьвязаны і ідэйна і організацыйна з опортуністамі і цэнтрыстамі на Захадзе? Хіба бальшавікі не разграмілі опортуністаў і цэнтрыстаў, так як не граміла іх ні адна левая група ў сьвеце? Як можна гаварыць пасьля ўсяго гэтага, што Ленін і бальшавікі недаацэньвалі небясьпекі цэнтрызму? Чаму Слуцкі грэбдзіва аднёсься да гэтых фактаў, маючых рашаючае значэньне для характарыстыкі бальшавікоў? Чаму ён ня выкарыстаў найбольш надзейны мэтод праверкі Леніна і бальшавікоў па іх справах, па іх дзействах. Чаму ён аддаў перавагу менш надзейнаму мэтоду капаньня ў выпадкова падабраных паперах?

Таму што ўжываньне больш надзейнага мэтоду праверкі бальшавікоў па іх справах адразу перавярнула-б дагары дном усю ўстаноўку Слуцкага.

Таму што праверка бальшавікоў па іх справах паказала-б, што бальшавікі зьяўляюцца *ядынай* у сьвеце рэволюцыйнай організацыяй, якая разграміла да канца опортуністаў і цэнтрыстаў і выгнала іх вон з партыі.

Таму што зьвярненьне да сапраўдных спраў і сапраўднай гісторыі бальшавікоў паказала-б, што настаўнікі Слуцкага— трацкісты былі галоўнай і *асноўнай* групай, насаджаўшай у Расіі цэнтрызм і стварыўшай для гэтага спэцыяльную організацыю, як асяродак цэнтрызму, у выглядзе Жнівеньскага блёку.

Таму што праверка бальшавікоў па іх справах канчаткова выкрыла-б Слуцкага, як фальсіфікатара гісторыі нашай партыі, прабуючага прыкрыць цэнтрызм трацкізму даваеннага пэрыоду паклёпніцкімі абвінавачаньнямі Леніна і бальшавікоў у недаацэнцы небясьпекі цэнтрызму.

Вось як стаіць справа, таварышы рэдактары, са Слуцкім і яго артыкулам.

Выбачыце, што рэдакцыя зрабіла памылку, дапусьціўшы дыскусію з фальсіфікатарам гісторыі нашай партыі.

Што магло штурхнуць рэдакцыю на гэты няправільны шлях? Я думаю, што на гэты шлях штурхнуў яе гнілы лібэралізм, які мае цяпер сярод адной часьці бальшавікоў некаторае пашырэньне. Некаторыя бальшавікі думаюць, што трацкізм ёсьць фракцыя комунізму, якая, праўда, памыляецца, робіць ня мала глупстваў, часамі нават антысавецкая, але ўсё-ж фракцыя комунізму. Адгэтуль некаторы лібэралізм у адносінах трацкістаў і трацкісцка-мыслячых людзей. Бадай ці трэба даказваць, што такі погляд на трацкізм зьяўляецца глыбока памылковым і шкодным. У сапраўднасьці-ж трацкізм даўно ўжо перастаў быць фракцыяй комунізму. У сапраўднасьці трацкізм ёсьць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі, якая вядзе змаганьне супроць комунізму, супроць савецкай улады, супроць будаўніцтва соцыялізму ў СССР.

Хто даў контр-рэволюцыйнай буржуазіі духоўную зброю супроць бальшавізму ў відзе тэзісу аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў нашым краі, у відзе тэзісу аб немінучасьці перараджэньня бальшавікоў і да т. п.? Гэту зброю даў ёй трацкізм. Нельга лічыць выпадковасьцю той факт, што ўсе антысавецкія групоўкі СССР у сваіх спробах абгрунтаваць няўнікнёнасьць змаганьня з савецкай уладай, спасылаліся на вядомы тэзіс трацкізму аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў нашым краі, аб няўнікнёнасьці перараджэньня савецкай улады, аб імавернасьці звароту да капіталізму.

Хто даў контр-рэволюцыйнай буржуазіі ў СССР тактычную зброю ў відзе спроб адкрытых выступленьняў супроць савецкай улады? Гэту зброю далі ёй трацкісты, прабаваўшыя ўстроіць антысавецкія дэмонстрацыі ў Маскве і Ленінградзе 7-га лістапада 1927 году. Гэта факт, што антысавецкія выступленьні трацкістаў паднялі дух у буржуазіі і разьвязалі шкодніцкую работу буржуазных спэцыялістаў.

Хто даў контр-рэволюцыйнай буржуазіі організацыйную зброю ў відзе спроб устройства падпольных антысавецкіх організацый? Гэту зброю далі ёй трацкісты, організаваўшыя сваю ўласную антыбальшавіцкую нелегальную групу. Гэта факт, што падпольная антысавецкая работа трацкістаў палегчыла організацыйнае афармленьне антысавецкіх груповак у СССР.

Трацкізм ёсьць перадавы атрад контр-рэволюцыйнай буржуазіі.

Вось чаму лібэралізм у адносінах да трацкізму, хоць-бы і разьбітага і замаскаванага, ёсьць галавацяпства, якое мяжуе з праступленьнем, здрадай рабочай клясе.

Вось чаму спробы некаторых „літаратараў" і „гісторыкаў" працягнуць контрабандай у нашу літаратуру замаскаваны трацкісцкі хлам павінны сустрэць з боку бальшавікоў рашучы адпор.

Вось чаму нельга дапускаць літаратурную дыскусію з трацкісцкімі контрабандыстамі.

Мне здаецца, што „гісторыкі" і „літаратары" з разраду трацкісцкіх контрабандыстаў стараюцца праводзіць сваю контрабандную работу пакуль што па дзьвёх лініях.

*Па-першае*, яны стараюцца даказаць, што Ленін у пэрыод перад вайной недаацэньваў небясьпеку цэнтрызму, пры гэтым пакідаецца неспрактыкаванаму чытачу дагадвацца, што Ленін, стала быць, ня быў яшчэ тады сапраўдным рэволюцыянэрам, што ён стаў такавым толькі пасьля вайны, пасьля таго, як „пераўзброіўся" пры дапамозе Троцкага. Тыповым прадстаўніком такога роду контрабандыстаў можна лічыць Слуцкага. Мы бачылі вышэй, што Слуцкі і кампанія ня варты таго, каб доўга вазіцца з імі.

*Па-другое*, яны стараюцца даказаць, што Ленін не разумеў неабходнасьці перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў рэволюцыю соцыялістычную, пры гэтым пакідаецца неспрактыкаванаму чытачу дагадвацца, што Ленін, значыцца, ня быў яшчэ тады сапраўдным бальшавіком, што ён зразумеў неабходнасьць такога перарастаньня толькі пасьля вайны, пасьля таго, як ён „пераўзброіўся" пры дапамозе Троцкага. Тыповым прадстаўніком такога роду котрабандыстаў можна лічыць Валасевіча, аўтара „Курса истории ВКП(б)". Праўда, Ленін яшчэ ў 1905 годзе пісаў, што „*ад рэволюцыі дэмократычнай мы зараз-жа пачнем пераходзіць і якраз у меру нашай сілы, сілы сьвядомага і організаванага пролетарыяту, пачнем пераходзіць да соцыялістычнай рэволюцыі*", што „*мы стаім за бесьперапынную рэволюцыю*", што „*мы ня спынімся на поўдарозе*". Праўда, фактаў і дакумантаў аналёгічнага парадку можна было-б знайсьці ў творах Леніна безьліч. Але якое дзела Валасевічам да фактаў з жыцьця і дзейнасьці Леніна? Валасевічы пішуць для таго, каб, падфарбаваўшыся пад бальшавіцкі колер, працягнуць сваю антыленінскую контрабанду, узьвесьці паклёп на бальшавікоў і сфальсіфікаваць гісторыю бальшавіцкай партыі.

Вы бачыце, што Валасевічы варты Слуцкіх.

Такавы „шляхі і ростані" трацкісцкіх контрабандыстаў.

Самі разумееце, што ня справа рэдакцыі палягчаць контрабандыцкую дзейнасьць падобных „гісторыкаў" і даваць ім дыскусійную трыбуну.

Задача рэдакцыі заключаецца, па-мойму, у тым, каб падняць пытаньні гісторыі бальшавізму на належную вышыню, паставіць справу вывучэньня гісторыі нашай партыі на навуковыя, бальшавіцкія рэйкі і завастрыць увагу супроць трацкісцкіх і ўсякіх іншых фальсіфікатараў гісторыі нашай партыі, сыстэматычна зрываючы з іх маскі.

Гэта тым больш неабходна, што нават некаторыя нашы гісторыкі,—я кажу аб гісторыках без двукосьцяў, *аб бальшавіцкіх* гісторыках нашай партыі,—не свабодных ад памылак, льлючых ваду на млын Слуцкіх і Валасевічаў. Выключэньнем не зьяўляецца тут, на жаль, і тав. Яраслаўскі, кніжкі якога па гісторыі УсеКП(б), ня гледзячы на іх дадатныя бакі, маюць рад памылак прынцыповага і гістарычнага характару.

З ком. прывітаньнем *І. СТАЛІН.*

сталі навялічваць колькасьць. З першых 40 чалавек, якія скончылі школу і вышлі на трох спэцыяльнасьцях—такары, сьлесары, кавалі—частка атрымала кваліфікацыю шофэраў-трактарыстаў. Першыя 40 чалавек стварылі ўдарную брыгаду перавыхаваных няпоўналетніх злачынцаў, якія вышлі на волю, каб удзельнічаць у справе соцыялістычнага будаўніцтва. Узрост 150 чалавек вучняў зараз, ад 16 да 18 год. Хлопцы вучацца і працуюць разьдзеламі па 25 чалавек у кожным. Паміж разьдзеламі шырока разгорнута соцспаборніцтва на лепшыя паказальнікі па вучобе і вытворчасьці. Уся школа цалкам заключыла дагавор па соцспаборніцтва з сарака выпускнікамі, якія паехалі ў лягеры. Да красавіка 1932 году мы павінны падрыхтаваць к выпуску усіх 150 чалавек, якія па контракту з Інструмэнтальбудам пойдуць на адзін з буйнейшых заводаў, дзе створаць вытворча-бытавую комуну былых злачынцаў.— „Гэта будучае",—сказаў Крушынскі, і, зірнуўшы на гадзіньнік,—„зараз пойдзем паглядзім наша сучаснае".

---

Я моўчкі пашоў за ім, вельмі зьдзіўлены, каб задаваць якія-небудзь пытаньні. Турэмныя краты і—школа ФЗВ. Гэта ня ўкладвалася ў маёй галаве, злачынцы, пазбаўленыя волі—хлопцы ў зялёных гарнітурах з вясёлымі тварамі...

— Так, ледзь было не забыўся,—сказаў Крушынскі (мы вышлі на шырокі панадворак папраўчага дому).—У нас ужо два месяца кожную пяцідзёнку праводзяцца пагулянкі за сьцены турмы. Вялікіх труднасьцяй каштавала дабіцца гэтай ільготы, бо ўсё-ж хлопцы астаюцца пазбаўленымі волі, некаторыя з вялікім тэрмінам. Мы правялі экскурсію на спэцыяльна закантрактаваным параходзе па Маскве-рацэ, хадзілі групамі ў гукавое кіно на карціну „Пуцёўка ў жыцьцё", якая, да рэчы кажучы, зрабіла на хлапцоў вялікае ўражаньне.

Кожную пяцідзёнку ходзім на бліжэйшую спорт-пляцоўку. Пагулянкі праходзяць выключна дысцыплінавана, і, сапраўды, гледзячы на хлапцоў ніяк нельга уявіць, што гэта ідуць былыя злачынцы-рэцыдывісты.

— Ніколі-б не падумаў гэтага—сказаў я. Крушынскі ўхмыльнуўся. Мы зьвярнулі на рог і накіраваліся к корпусу, што стаяў у баку ад усяго папраўчага дому.

— Ну, вось і наша памяшканьне—сказаў Крушынскі. Мы падышлі бліжэй і ўвайшлі ў двор корпусу.—Проста перад намі ляжаў вялікі сьветлы калідор, на левым баку якога былі відаць дзьверы. Насустрач падышоў адзін з хлапцоў у зялёным гарнітуры, узяў пад казырок, аддаў Крушынскаму рапорт. Гэта быў командзір батальёну. Ён далажыў, што адна рота знаходзілася на школьных занятках, другая—на вытворчасьці.

— Ну, што-ж таварыш, камбат, пойдзем агледзім памяшканьне.

Таварыш камбат, хлапчук гадоў 18, з вясёлым блакітнымі вачыма, адчыніў перад намі дзьверы першага пакою. Вялікі абедзены стол, засланы кляёнкай, на паліцах над ложкамі былі відаць шчоткі, мыла, зубны парашок. Ложкі і сьцены беззаганай чыстаты.

— Тут зьмяшчаецца 25 чалавек—сказаў, гледзячы на мяне, блакітнавокі камбат,—з іх штодзенна адзін глядзіць за чыстатою і парадкам, за памяшканьнем. Зараз увесь разьдзел у школе на занятках. А, вось, наша насьценгазэта—заўважыў камбат, паказваючы на сьцяну. Я падышоў бліжэй, прачытаў некалькі вострых на тэму дня, жыва напісаных заметак.

— Ня дарам яна атрымала першую прэмію на конкурсе насьценгазэт усіх ФЗВ мясцоў пазбаўленьня волі,—з гонарам падкрэсьліў Крушынскі. Мы пашлі далей, калідор зьвярнуў улева.

— Вось нашы вучэбныя клясы—сказаў Крушынскі, паказваючы рукой на дзьверы, што ідуць усьцяж калідору. У гэты час рэзка празьвінеў званок.

— Пераменка—сказаў камбат. Расчыніліся дзьверы клясаў і выхавальнікі натоўпам высыпалі ў калідор. Частка з іх адразу абступіла Крушынскага. Глядзеў і зьдзіўляўся, колькі бадзёрасьці і весялосьці было ў іх тварах, не разумеў, як могуць адарваныя ад волі хлопцы весяліцца. Я ўвайшоў у адзін з клясаў. Скамейкі, на сьценах розныя тэхнічныя плякаты і дыяграмы, на стале прылады для фізычных досьледаў. Пакой нічым не адрозьніваўся ад клясы школы сямігодкі на волі.

— Ці падабаецца табе тут?—спытаў я командзіра батальёну.
— Чаму не, калі-ж толькі цяпер я магу сапраўды пачаць жыцьцё. Праз некалькі месяцаў атрымаю кваліфікацыю, буду добрым токарам, а там...—ён радасна ўсьміхнуўся.
— Тут большасьць хлопцаў—працягваў ён,—якіх штурхнула на злачынства нэндза і цямнота. Цяпер, калі ім далі магчымасьць паправіцца, з запалам узяліся за работу. Увесь час перавыконваем програму, спаборнічаем; з нецярплівасьцю чакаем тага моманту, калі будзем свабодна працаваць на заводзе. Крушынскі прапанаваў мне паглядзець майстэрні. Дарога


Перакваліфікацыя жанчын на курсах „ЦІП'у ў Менску


Ударнік Тормазнага заводу т. ЗАЙЦАЎ вылучаны майстрам цэха

да іх вяла праз дзьверы папраўчага дому. Направа ад корпусу заўважыў квітнеючы садзік, які зарос густою травой, і пасярод якога былі клюмбы кветак.

— Гэты садзік распрацован самімі выхавальнікамі,—сказаў Крушынскі.—Яны стварылі сабе гэтым самым добрае месца для пагулянкі. Узімку тут будзе каток.

— А як астаіць справа з харчаваньнем?—спытаў я.

— Мы як мага лепей стараемся, каб задаволіць патрабаваньні хлапцоў,—сказаў Крушынскі.—Ім даем крыху палепшаны па якасьці абед, кожны дзень атрымоўваюць дадаткова па 400 грам белага хлеба і апрача таго, рабочую норму пайка. Увайшоў у памяшканьне, на якім была прыбіта такая шыльда: „Сьлесарнатакарна-мэханічная майстэрня". Ужо пераапранутыя ў чорныя спэцоўкі працавалі ў ёй падлеткі.

— Ну зірні сюды—паказаў Крушынскі на віхрастага энэргічнага хлапца, з двума залатымі зубамі ў роце, захопленага працай.

— Ён меў у мінулым,—сказаў Крушынскі 8 судзімасьцяй за кватэрныя пакражы па розных гарадох, зьбег з праўчага дому і з высылкі, а тут зжыўся, стаў адным з лепшых, працуе ў рэдкалегіі. А вось другі—і ён кіўнуў у напрамку да прыгожага, смуглявага юнака, які рэзкімі пунктуальнымі ўдарамі молата па зубілу, рубіў жалеза.—Гэты два разы судзіўся, адзін раз за кражу, другі—за ашуканства. Хлопец раней добра працаваў, але стаў п'янстваваць, папаўшы пад чужы уплыў у рэзультаце злачынства. Цяпер ён выдатны актывіст і організатар, працуе ў „жывой газэце", піша ня дрэнныя вершы.

Позна ўвечары вярнууся я дамоў, ніколі не адчуваў сябе такім бадзёрым і адпачыўшым. Пад жывым уражаньнем убачанага думаў: Нашай краіне патрэбны кадры новых кваліфікаваных рабочых, непахісных і моцных бальшавікоў, і яны прыдуць, бадзёрыя, і займуць сваё пачэснае месца ў будаўніцтве социялізму".

Тужылкін з нецярплівасьцю чакаў маёй „рэзолюцыі", як ён выразіўся, аб сваёй творчасьці. Ён надзвычайна ганарыўся маёй ацэнкаю, якую я даў яго рукапісу.

— У мяне яшчэ ёсьць—сказаў і густа пачырванеў,—але гэта ўжо з мінулага, пісаць аб гэтым можна было-б, ды неяк сорамна, усё-ткі пацікаўся.

І я прачытаў, але гэта былі старонкі зусім іншага парадку. Праўда, яны мелі сваю вялікую каштоўнасьць, у іх мінулае тых, хто цяпер працуе ў батальёне.

„Моцныя ўдары ў дзьверы—піша Тужылкін у сваёй натацы—разбудзілі мяне. Нехаця ўстаў з ложку і, хістаючыся ў бакі пасьля яшчэ не прайшоўшага ад учарайшай п'янкі пахмельля, намацаў дзьверы.

— Хто там?

— Віцька, адчыні, гэта я—Сашка.

— Ты што так рана?

Доўга яшчэ вазіўся каля дзьвярэй, дрыжачымі рукамі намацаў клямку. Дзьверы расчыніліся, яркае сьвятло ўдарыла мне ў вочы і на некаторы час асьляпіла. Сашка ўвайшоў, зачыніў за сабою дзьверы, стала цёмна. Я зноў залез пад коўдру.

— Чаго ты сьпіш, тры гадзіны ўжо—прамовіў Сашка.

— Ну і што, я лёг спаць сёньня ў сем, поезд спазьніўся на тры гадзіны.

— Ты што ўчора езьдзіў?

— А як-жа, бо грошай ня было, а сёньня трэба ісьці да Галькі.

— Эх, Віцька, я табе ня раю з ёю жыць: яна-ж ведаеш якая сьцерва, ты для яе ўсё робіш, лазіш, а кожную хвіліну можаш пайсьці ў „лягаўку" (быць арыштованым), а калі ўжо сядзеш, тады не чакай ад яе перадач. Я вось учора ўбачыў яе, хадзіла з Валодзькам блюдзечкам.

— Забажыся!



Пакой адпачынку

— Лягавы буду (прысяга злачынцаў—лягавы агент крымвышуку).

Адчуў няёмкасьць і трывожна заварушыўся пад коўдраю, нібы ў мяне на матрасе было намазана клеем і я баяўся да яго прыляпіцца. Некалькі мінут ляжаў моўчкі, затым павярнуўся сьпіною да сьцяны падняў матрас і дрыжачай ад хваляваньня рукою намацаў ручку нагана. У мяне мільганула думка забяліць (забіць) яе, пайсьці да яе на хівуру (кватэру), убачыць і, ні слова не прамовіўшы, шлёпнуць і падарваць (уцячы) у які-небудзь іншы горад; у гэты час я стаў яе так жалець, быццам я яе сапраўды забіў. Не, так ня трэба"—думаў я. Трэба з ёй як сьлед пагаварыць.

Сашка сядзеў нярухома і сьвятло, што праз шчыліны пралазіла, цьмяна асьвятляла яго смуглы, з невялікім рубцом на левай шчацэ, твар. Нешта, відаць, яшчэ хацеў сказаць, але не рашыўся... Больш галаве не даваў спакою, захацелася віна.

— Сашка, будзь добры, схадзі па віно.

— Добра, давай схаджу.

Абапёршыся на локаць, дастаў 10 руб., падаў яму. Ён спакваля ўстаў, адчыніў на палову дзьверы і абвярнуўшыся сказаў:

— А ты ўставай, ужо пара.

Дзьверы зачыніліся.

Крыху падняўся з ложку, настаражыўся, прыслухваўся да кожнага шолаху, смутак падбіраўся да самага сэрца. Яскрава ўяўляў учарайшую карціну, як пагарэў на майдане ля пузатага штымпа *).

Чалавекам быў відаць разумным, не павёў мяне ў лягаўку (крымвышук), стаў пераконваць каб кінуў дурныя звычкі, паступіў на завод працаваць з тым, каб ператварыцца ў сумленнага грамадзяніна. Сьцяміў, што людзі, якія навучалі мне красьці, хацелі не дабра, а зла. Ну, чорт з імі, усё роўна буду красьці. Калі раней не працаваў, дык цяпер і падзўна ня буду.

Устаў з ложку, запаліў сьвечку, выняў сармак (грошы), стаў лічыць. Вышаў на двор, памыўся, вярнуўся ў хлеў, дзе мяне ўжо чакаў Сашка. На стале стаяла бутэлька віна і закуска.

— Ну, што-ж, будзь гаспадаром, прыгатуй закуску і вып'ем.

Далей былі старонкі прысьвечаныя ўзорнаму, сантымэнтальнаму каханьню Сашкі да маткі і яго сустрэча з любаю, калі ён ударыў яе нажом і цяжка параніў. У гэты момант гэрой апавяданьня, ён-жа Тужылкін, быў п'яны. Як рэзультат замаху на забойства „сваёй нявесты" Тужылкін, які ўжо меў да таго рад судзімасьцяй, папаў у вастрог.

Колькі іх яшчэ нявыяўленых літаратараў сярод 150 чалавек няпоўналетніх злачынцаў, што састаяць у радох ФЗВ. Два рукапісы Тужылкіна адбіваюць быццам псыхалёгію двух розных гэрояў. Дыстанцыя пройдзеная між адным пэрыодам і другім (у школе ФЗВ) гэта ёсьць творчае дасягненьне тых, хто працаваў над стварэньнем школ ФЗВ і працягвае траціць агромністую сілу на выхаваньне з былых злачынцаў кваліфікаваных рабочых. Як далёка яны, радавыя батальёну ФЗВ, ад таго, што мы разумеем пад тэрмінам „прытоеныя драпежнікі".



У спальнай

---

*) Папаўся абкрадваючы на пляцу тоўстага чалавека.

# ПЕРШАЯ КОНФЭРЭНЦЫЯ МенАПП



Прэзыдыум конфэрэнцыі

Першая конфэрэнцыя МенАПП па сутнасьці мела ўсебеларускае значэньне. Конфэрэнцыя па пастаноўцы пытаньняў пролетарскага літаратурнага руху перарасла рамкі Менскай асоцыяцыі і ўзьнялася на надзвычайную політычную вышыню, дзякуючы вялікаму ідэйнаму і творчаму росту і той выключнай увазе, якая аддавалася ёй з боку кіраўніцтва КП(б)Б. У работах конфэрэнцыі апрача Менскай асоцыяцыі прымалі ўдзел дэлегаты Беларускай сэкцыі ЛАПП, Віцебскай, Бабруйскай і інш. АПП; былі прадстаўнікі ад ВОАПП, Маскоўскай АПП, АПП Заходняй вобласьці.

Конфэрэнцыя прайшла пад знакам змаганьня за ленінскі этап беларускай пролетарскай літаратуры і крытыкі, за вялікае мастацтва бальшавізму, пад знакам творчага замацаваньня дасягненьняў па закліку ўдарнікаў у літаратуру.

Сакратар ЦК КП(б)Б тав. Шаранговіч у сваім дакладзе „Чацьверты год пяцігодкі і задачы пролетарскай літаратуры“ даў асноўныя літаратурна-політычныя і творчыя ўстаноўкі для далейшай работы нашых белапаўскіх організацый. Тав. Шаранговіч завастрыў увагу конфэрэнцыі на ідэйна-выхаваўчай ролі БелАПП, патрабуючы ад пролетарскіх пісьменьнікаў больш паглыбленай работы па ауладаньні марксыцка-ленінскім сьветапоглядам і творчым мэтодам пролетарскай літаратуры, а таксама на неабходнасьці больш рашучага змаганьня за партыйнасьць у літаратуры, на недапушчальнасьці бестаронных, халодных адносін у паказе нашай рэчаіснасьці.

Тав. Шаранговіч указаў на неабходнасьць узмацненьня работы з папутнікамі, на конкрэтных прыкладах паказаўшы невыстарчальнасьць перабудовы некаторых з іх (М. Лужанін і інш.). Адначасова тав. Шаранговіч адзначыў неабходнасьць жорсткага змаганьня з „чырвонай“ халтурай і праявамі варожай ідэолёгіі ў літаратуры.

Беларуская пролетарская літаратура на даным этапе зьяўляецца ідэйна вядучым атрадам беларускай літаратуры і бліжэйшай задачай для нас зьяўляецца заваёва творчай гегемоніі. Але-ж пры ўсіх сваіх вялікіх дасягненьнях беларуская пролетарская літаратура ўсё яшчэ адстае ад задач рэконструкцыйнага пэрыоду.

У спрэчках па творчых пытаньнях на конфэрэнцыі было констатавана асабліва нездавальняючае становішча з нашай крытыкай. Беларуская пролетарская крытыка ўсё яшчэ знаходзіцца на нізкім тэорытычным узроўні. Самым слабым зьвяном у ёй зьяўляецца конкрэтная крытыка. І зусім правільна на конфэрэнцыі ўказвалася на неабходнасьць упартай работы па выхаваньні крытычных кадраў і неабходнасьць заклiку рабочых ударнікаў у крытыку.

Па закліку ўдарнікаў у літаратуру менская АПП дасягнула вялікіх посьпехаў. На менскіх прадпрыемствах організавана сетка рабочых літгурткоў. Некаторыя з гурткоў (заводу імя Варашылава, друкарні імя Сталіна і інш.) ужо настолькі творча вырасьлі, што частку таварышоў да конфэрэнцыі змаглі перадаць у МенАПП. Каля 50 проц. дэлегатаў на конфэрэнцыі было прадстаўлена рабочымі ўдарнікамі. Да конфэрэнцыі ДВБ выпусьціла зборнік творчасьці ўдарнікаў. На конфэрэнцыі быў дан рашучы адпор крытыкам (Н. Кабакоў і інш.), якія падмянялі творча-выхаваўчую работу з ударнікамі агульным захвальваньнем.

На конфэрэнцыі была адзначана слабая работа аб'яднаньня пролетарска-калгасных пісьменьнікаў. Да гэтага часу аб'яднаньнем не праведзен заклік калгасьнікаў-ударнікаў у літаратуру. Конфэрэнцыя патрабавала ад пролетарска-колгасных пісьменьнікаў ліквідацыі адставаньня па закліку колгасьнікаў у літаратуру і пастаноўкі творча-выхаваўчай работы з імі на належную вышыню.

Прадстаўнікі „Узвышша“ ўздымалі пытаньне аб рэорганізацыі свайго згуртаваньня, матывуючы гэта тым, што яно страціла социяльную глебу і ня мае пэрспэктыў для свайго разьвіцьця.

Той факт, што папутнікі прышлі да нас на конфэрэнцыю за ўказаньнямі адносна далейшай творчай работы, мае выключнае політычнае значэньне і лішні раз сьведчыць аб неабходнасьці ўзмацненьня конкрэтнага кіраўніцтва папутнікамі, неабходнасьці набліжэньня іх да штодзённай творчай работы БелАПП.

Конфэрэнцыя МенАПП займалася ня толькі пытаньнямі літаратуры, на ёй завострывалася ўвага на становішчы выяўленчага мастацтва, музыкі і інш.

У спрэчках на конфэрэнцыі разгарнулася шырокая творчая дыскусія. Асабліва моцны агонь быў накіраваны супроць „чырвонай“ халтуры. Гэта дыскусія павінна быць пачаткам паходу за аўладаньне вышынямі ленінскай дыялектыкі і ператварэньне яе ў творчую практыку, за конкрэтызацыю крытыкі, за творча-выхаваўчую работу з ударнікамі, за вялікае мастацтва бальшавізму.

**Я. Ш.**


Пэ„• а„стапенка тлумачыць выстаўку

# ПІСЬМЕНЬНІК НА СЛУЖБУ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАМУ БУДАЎНІЦТВУ




## ЛІТАРАТУРНАЯ ВЫСТАЎКА МенАПП

Менская Асоцыяцыя Пролетарскіх Пісьменьнікаў да XIV гадавіны Кастрычнікавай Рэволюцыі адчыніла выстаўку „Пісьменьнік на службу соцыялістычнаму будаўніцтву".

Гэтая выстаўка зьяўляецца першай літаратурнай выстаўкай у БССР. Выстаўка пад'агуліла работу Менскай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў за 1930 і 1931 гады. Выстаўка прыцягнула да сябе вялікую ўвагу з боку пролетарскай грамадзкасьці гораду Менску, аб чым сьведчыць наведваньне яе, як паасобнымі экскурсантамі, так і цэлымі экскурсіямі, з фабрык, заводаў, школ, літаратурных гурткоў і г. д.

На выстаўцы прадстаўлены шэсьць аддзелаў пісьменьніцкай работы.

У аддзеле „Ударнік ідзе ў літаратуру" сабраны экспонаты творчай работы 12-ці рабочых літаратурных гурткоў Менску.

Вялікае месца на выстаўцы займае аддзел „Праца пісьменьніцкіх брыгад", у якім сабраны экспонаты аб рабоце пісьменьнікаў на соцыялістычных прадпрыемствах Шатуры, Асінторфу, Бабруйскага Дрэваапрацоўчага Камбінату, Гомельскага Сельмашу, Добрушскай папяровай фабрыкі „Герой працы", экспанаты аб рабоце пісьменьнікаў у калгасах БССР, аб рабоце белапаўскай брыгады ў Віцебску, аб рабоце інтэрнацыянальнай Воапаўскай брыгады ў Сярэдняй Азіі.

Пры аглядзе гэтага аддзелу адразу кідаецца ў вочы непарыўная сувязь пісьменьніка з соцыялістычным будаўніцтвам у БССР, у СССР, якая дасягнута пісьменьніцкімі организацыямі пад кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі.

На выстаўцы вылучана ў спэцыяльны аддзел творчая дзейнасьць пролетарскага поэты Андрэя Александровіча, у сувязі з дзесяцігодзьдзем яго літаратурнай работы. У аддзеле А. Александровіча сабраны выданьні поэты, пачынаючы ад першага зборнічка поэзіі „Комсамольская нота" да вершаванага роману „Нараджэньне чалавека".

У аддзеле „ДВБ" паказаны на выстаўцы ўсе выданьні мастацкай літаратуры за 1931 год, літаратурна-мастацкія часопісы БССР, фотографіямі паказаны процэс руху кнігі—ад аўтара да чытача.

Барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам і контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам у пісьменьніцкіх организацыях БССР знайшла сваё адлюстраваньне на выстаўцы ў аддзеле „У барацьбе з клясавым ворагам—за пролетарскую літаратуру", дзе сабраны выразкі з газэт, рэзолюцыі, протэсты, фотографіі, якія гавораць аб барацьбе за пролетарскую літаратуру, якія гавораць аб контррэволюцыйнай чыннасьці беларускіх нацыянал-дэмократаў.

Надзвычай каштоўным зьяўляецца на выстаўцы аддзел Заходняй Беларусі, дзе сабрана турэмная літаратура, падпольныя выданьні КПЗБ, нацыянал-фашыстаўская літаратура, дзе сабраны фотографіі і дакуманты, якія паказваюць тэрор у Заходняй Беларусі, прымусовую полёнізацыю, якія паказваюць барацьбу рабочых і працоўнага сялянства ў Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам КПЗБ.

Літаратурная выстаўка МенАПП унесла ў пісьменьніцкае жыцьцё вялікае ажыўленьне.

Звыш 4000 наведвальнікаў выстаўкі за першы месяц сьведчыць аб зацікаўленасьці літаратурным жыцьцём з боку шырокіх колаў пролетарскай грамадзкасьці.

Іл. Б.

---

## Колгасьнік Каліна

**Рыгор Канавалаў**

I.

Стары, з барадой
Пасівелай, як дым,
І скруткам гадоў за плячыма,
Бадзёра, як быццам
Зусім малады,
Удаль пазірае вачыма.

У мінулым—у пана
Адзін з батракоў,
Такіх-жа нядоляй забітых,
Здаваўшых—дзесяткі
І сотні вякоў—
Жыцьцё на палове орбіты.

Цяпер ён колгасьнік,
Заўзяты заўжды,
Прагулаў ня робіць ніколі.
Мінулі цяжкія
Для дзеда гады,—
Каліна колгасам здаволен.

II.

Да моладзі часта,
Жыцьцём абагрэты,
Заходзіць Каліна
Ў чырвоны куток;
Пісаць навучыўся,
Чытае газэты,
Разьбегу яго
Ня стрымае ніхто.

„За вамі ў навуцы
Старому ня гнацца,
Мінулі мае
Маладыя гады.
А вось, што датычыцца
Простае працы—
Я стану заўсёды
У вашы рады.

„Працуючы з вамі,
Ад вас не адстану,
Мо' прыклады працы
Яшчэ пакажу,
...О, колькі я вырваў
У полі бур'яну
І вырыў за век
Не адну ўжо мяжу...

„Цяпер—нам з-за межаў
Спрачацца ня трэба:
У нас іх даўно
І ў паміне няма,
І трактар—асілак
Варочае глебу,
Як пойдзе, дык, нават,
Ня можна стрымаць"...

„Хай вораг разьюшаны
Толькі зачэпіць
Краіну Саветаў,—
Пайду бараніць.
Мы гуртам і ворага
Зьнішчым дашчэнту,
Запалім свае
Па сусьвету агні..."

III.

Стары, з барадой
Пасівелай, як дым,
І скруткам гадоў за плячыма,
Бадзёра, як быццам
Зусім малады,
Удаль пазірае вачыма.

# КАСТРЫЧНІ АЕ СЬВЯТА



Рапарт Чырвонай арміі Моссавету



Менск. Чырвоныя франтавікі на пляцу Волі







Масква. Прадстаўнікі партыі і ўраду на трыбуке.




Ленінград. Дэманстрацыя часьцей гарнізона на пляцу Урыцкага.




Менск. Прадстаўнікі партыі і ўраду на трыбуке.

# Ў ЧЫРВОНЫ СТАЛІЦАХ

# 4-ая ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ МАСТАЦКАЯ



Я. Я. Ахрэмчык. Торф для Асінбуду

Адным з адсталых вучасткаў на фронце культурнага будаўніцтва, дагэтуль зьяўлялася выяўленчае мастацтва. Аднак, трэба адзначыць, што ў апошні час і ў галіне выяўленчага мастацтва намеціўся значны зрух наперад, аб чым сьведчыць 4-я Усебеларуская мастацкая выстаўка.

У цэлым шэрагу прац мы бачым моманты адлюстроўваючыя процэсы социялістычнае працы, партрэты ўдарнікаў, спробы даць тып новага рабочага, паказаць клясавую барацьбу і г. д.

Значнае месца на выстаўчы займаюць экспанаты Віцебскага Мастацкага Тэхнікуму. Прадстаўленыя на выстаўку плякаты студэнтаў, зробленыя імі для фабрык і заводаў у мэтах дапамогі ў ліквідацыі прарываў, макеты конструкцый, проэкты масавых афармленьняў, сьведчаць аб тым, што кіраўніцтва тэхнікуму імкнецца накіраваць работу апошняга на верны шлях. Але-ж з боку мастацкай якасьці, продукцыя тэхнікуму знаходзіцца яшчэ далёка не на высокім узроўні і выканана старымі мастацкімі сродкамі.

Закранаючы другія катэгорыі мастацкай продукцыі, прадстаўленыя на гэтай выстаўцы, па першае трэба адзначыць, што пераход мастакоў на савецкую тэматыку яшчэ далёка не зьяўляецца вычарпальна-здавальняючым фактам.

Але гэты факт бязумоўна характарызуе шчырае жаданьне значнай часткі мастакоў пераключыцца на новыя рэйкі. З другога боку частка прац можа навесьці на думку, што некаторыя мастакі ідуць па лініі найменшага супраціўленьня і пад шыльдай савецкай тэматыкі проста прыстасоўваюцца да нашай рэчаіснасьці, ці прыкрываючыся ёй, праводзяць свае дробна-буржуазныя тэндэнцыі і ідэалы.

На раду з гэтым цэлы шэраг прац гаворыць аб тым, што над шмат якімі мастакамі яшчэ ў значнай меры цяжарыць спадчына старых буржуазна-фармалістычных традыцый.

Найбольш яскрава гэтыя буржуазна-фармалістычныя тэндэнцыі адчуваюцца ў працах Зэвіна, што цалкам пазбаўляе творчасьць апошняга соцыяльнай насычанасьці.

Мастак Аксэльрод, будучы таксама зьвязан з формалістычнымі традыцыямі, стаіць значна вышэй Зэвіна, як у сэнсе мастацкай якасьці так і ў сэнсе соцыяльнай значымасьці яго працы. Калі мастак Зэвін аддае максымум увагі фармалістычным момантам ва ўбытак тэматыцы, ідэйнаму зьместу, то т. Аксэльрод, у процілегласьць Зэвіну, сваё майстэрства накіроўвае на службу сучаснасьці. Тав. Аксэльрод, мастак з вялікімі мастацкімі магчымасьцямі, але іх выяўленьне і разьвіцьцё цалкам залежыць ад таго, ці зможа ён перабудаваць свае творчыя позыцыі.

Тав. Ахрэмчык у сваіх двух вялікіх палотнах „Торфараспрацоўкі“ і „Гарбарня“ імкнецца перадаць напружанасьць і энтузіязм социялістычнае працы. Калі гэтыя яго творы не пазбаўлены соцыяльна карыснай значымасьці, то яго партрэты, ня гледзячы на іх мастацкую перавагу, у сэнсе іх ідэолёгічнай каштоўнасьці стаяць значна ніжэй.

Тав. Грубэ ў сваёй скульптуры „Рукі прэч ад СССР“ паставіў перад сабой складаную задачу падачы вобраза ўскрываючага клясавыя супярэчнасьці паміж міжнародным пролетарыятам і сусьветнай буржуазіяй. Што т. Грубэ спрабуе вырашаць падобныя проблемы бяссумненна зьяўляецца станоўчым момантам у яго творчасьці. Аднак т. Грубэ неабходна падумаць аб найбольш ідэёва-высокай і мастацка-конкрэтнай распрацоўцы падобных тэм.



А. Бразэр. Старшыня СНК БССР Галадзед.



П. Гаўрыленка. Брыгада за працай у колгасе.

# ВЫСТАЎКА

Як становўчы бок, трэба адзначыць, што Грубэ адыходзіць ад фізыёлёгізму і архаізму, з якімі зьвязана ўся яго ранейшая творчасьць.

Карціна т. Бразэра „Яўрэі на зямлі“ вельмі слабая па замыслу і ў сэнсе мастацкага выкананьня. Яго скульптуры якасна значна вышэй яго маляўніцтва. Аднак мастак ідзе па лініі найменшага супраціўленьня і ў трактоўцы пролетарскіх дзеячоў і правадыроў, шаблённа прдкрэсьлівае і штучна выпукляе валявы момант, такім чынам вульгарызуючы вобраз.

Тав. Кастэлянскі дае цэлы шэраг партрэтаў ударнікаў. Як становўчае зьявішча, трэба адзначыць, што Кастэлянскі парывае са сваім цёмна-сумным калярытам і імкнецца перайсьці к больш сьветламу, радаснаму і сугучнаму эпосе калярыту. Адмоўным бокам у яго партрэтах зьяўляецца тое, што ён абмяжоўваецца натуралістычна-пасыўнай фіксацыяй знадворных адзнак чалавечай асабістасьці. Неабходна дыялектычна падыходзіць да выяўленьня вобраза і, трактуючы ўдарнікаў, укладваць у іх партрэты ідэю новага чалавека, чаго ня робіць Кастэлянскі.



А. Тычына. На пабудове шосэ.

Праца т. Тычыны „На пабудове шасэ“ сьведчыць аб тым што Тычына перабудоўваецца, шукае новых творчых шляхоў у мэтах набліжэньня сваёй творчасьці да запатрабаваньняў сучаснасьці.

Тав. Пашкевіч у сваёй карціне „Забойства селькора“ імкнецца ускорыць клясавую барацьбу і паказаць контррэволюцыйную дзейнасьць варожых элемэнтаў. Жаданьне добрае і вартае заахвочваньня. Але т. Пашкевіч у сваёй працы залішне захапляецца псыхолёгічным эфэктам (якога, да рэчы сказаць, ён дасягае вельмі схэматычнымі і таннымі сродкамі), чым зусім заглушае соцыяльную значымасьць свайго замыслу. Што датычыць яго іншых прац, то трэба сказаць, што яны па сваёй мастацкай якасьці і ў сэнсе вырашэньня тэмы стаяць яшчэ далёка не на высокім узроўні. Рысункі Пашкевіча лепш яго маляўнічых прац.

Сярод ужо вядомых нам мастакоў мы бачым цэлы шэраг маладых мастацкіх сіл, з якіх трэба ўпамянуць т. т. Гаўрыленку, Заборава, Андрэева, Красоўскага і іншых. Працы апошніх пры ўсім іх імкненьні накіраваць сваю творчую дзейнасьць па шляху адказу на запатрабаваньні сучаснасьці, аднак схэматычны і яшчэ далёка недасканальны па мастацкай кваліфікацыі.

Ня гледзячы на цэлы шэраг недахопаў, на прыкладзе гэтай выстаўкі, можна канстатаваць, што шмат якія мастакі асьвядомліваюць ужо тыя задачы, якія ставіць перад імі рабочая кляса і комуністычная партыя.

Аднак проблема новага творчага мэтоду адпавядаючага марксыцка-ленінскаму сьветапогляду са ўсёй завостранасьцю стаіць перад нашым мастаком.

Мобілізуем-жа ўсе сілы на барацьбу за стварэньне вялікага мастацтва бальшавізму!

**Ф. Выхадцаў.**



Эскіз да карціны „Зьмена“, А. Забораў.



М. Пашкевіч. Забойства селькора

З нізкі вершаў „Белдрэс“

## ІНЖЫНЭР ГЕХТ

Я памятаю:
іх нізкі намер
І словы Крыленкі,
што молатам цокалі,
І як упаўзалі
ў вялізны партэр
Няздрабнаю зграяй
антанцкія лёкаі.
Тады, як цяпер,
серабрыўся абшар
І ў жорсткасьць прысуду
кожны з нас верыў,
І гнеўную хвалю
на здраднікі ўдар
Спаткалі рамзінскія інжынэры.
...Яны думалі:
справу дарогі ці станцыі
Толькі і ведае
„белая косьць“...
Яны сталі з нажом, як забойцы,
ў дыстанцыях,
Дзе пот са сьлязамі
і кроў наша ёсьць.
Панове! Усё скончана.
Козыры біты,
І вы—за бар'ерам
вялікіх эр,
А тое, што вам
уяўлялася мітам—
У нас вырастае
штодзенна цяпер!
Бо нашыя сьнежкі,
здаецца просты,
І дні нашы поўны,
як сьпелы арэх!
...Мне хочацца слова сказаць вам
на ростань,
Настаўнік і сябра—
таварыш Гехт!
Над намі аднолькава
сьвеціць зара
І колы—
ў адзіным паверце;
Вы—токам электрыкі
поіце край,
А я—электрычнасьцю сэрца!
Я вас сустракаў
ля пражэрных катлоў,—
Вы самі трымалі гарэньне;
Вам рукі і твар
гэтаксама пякло,
Як звычайнай рабочай зьмене.
Вы нафту лілі,
вас ня здужваў сон,
Пакуль ня румяніўся золак;
Вы, мусіць,
і сьнілі развой шасьцярон
І неба ў размочаных золах?..
У нашым будынку—
так многа дзьвярэй,—
Мажлівы і новыя раны...
Вы наш, вы гартованы
воляй аднэй—
І шмат вас такіх, адданых!
У нашай краіне
растуць гарады
І вёскі вітаюць сьвітаньне...
Давайце руку—
і контакт назаўжды,
Без каро́ткага замыканьня!

ЮРКА ЛЯЬ-ИНЫ

## НОЧ НА ПАГРУЗЦЫ ТОРФУ

Чорнаю кошкаю ноч настарожана,—
Нават і зданi праравы варожы нам,
Провад гудзіць і ня сьпяць
кондэнсатары,
Выюць турбіны за шэрымі кратамі...
Раптам—сырэна... Яшчэ і яшчэ...
Гасьне прамень электрычных вачэй,
Сэрца пасёлку татахкае глуха,
Хмарная сыпле наўкол пацяруха,
Ветры ў прасторах вядуць карагоды,
Вісьне пагроза над пульсам заводаў...
І—
ў цемру, вільгаць—
тупат ног:
— Будзем мігам!
Усё за мной!
Месяц—сьведка...
— К ваганэткам!
— Кажаш,—позна?..
Глупства, возьмем!
І па шпалах,
Зьлева, справа,
Каб вярнуць Белдрэс'у ход—
Выйшла большасьць Арахоў!
—Электрычных болей зор!
Пад рыдлёўкай—пругкі торф,
Вецер хмары рве нашчэнт;
Тут—і майстар, і студэнт,
Інжынэр, баец, сэзоньнік,—
Ажно дзівіцца сасоньнік,
З боку гледзячы на пал,
Што людзьмі апанаваў!
Дзе калейкі—
Сьлізкі рэйкі...
Дым... Агні...
Вось—цягнік.
А ў кацельнай—прагнуць люфты...
Толькі торф адновіць рух той!
І—бяз грошы
Кожны кошык
З „гакам“ болей палавінкі
Падаецца, як малінка!
Тры гадзіны рэжам торф,
Каб ля топак—тэмпаў шторм.
Мы нагонім—знай і вер!—
Дваццаць восем атмосфэр.
...Ноч настарожана—будні, ці сьвята—
Роўна і мужна гудзіць трансформатар!

СЯРГЕЙ АСТРЭЙКА

# ДЭПЭШЫ З ПРЫШЛАСЬЦІ

(ЭСКІЗ)

Няўпынна лятункі у далеч імкнуць,
Усё ім патрэбна руплівасьцю вызнаць.
Цяпер сузіраюць краіны вясну,—
Яна зіхаціць пераліўнай барвізнай:
Галовы задорныя вежы ўзьнялі,
Гарацць каміны адлітованы глянцам.
І сьцелецца ўсьцяж па квяцістай зямлі
Шасьценьне заводаў і электрастанцый.
Дымы завісаюць на станах ракіт,
Прыдушан дарогамі мылавец глейкі.
Ідуць,
і зьвіняць,
і шасьцяць цягнікі,
Ў халоднай задуме выблісквaюць рэйкі.
Па колішнім пляцы іржавых балот
Імчыцца стракатасьць адточаных вуліц.
На плечы будынін зіяньне лягло,
Паўз вятры абрысы хмурын мільганулі.
Узьнёслых гадоў наструнаваны верш
Крывёй палыскуе, змарагдам іскрыцца.
Прастуе настырлівы голас дэпэш
У Менск—Беларусі Савецкай сталіцу.

(Дэпэшы:)

1. м. Ліда *)

Цягнікі адыходзяць штодня.
Ухапіўшы ашчапкаў лігніту.
Чорным вокам глядзіць глыбіня,
І прасьцяг, шалясьценьнем спавіты.
Вугаль скрозь аднастайна густы
Бліщча колерам бляклай лістоты.
Шчэ знайшлі два другія пласты
І ў астатніх ня моўкне работа.

2. Ускраі Лысае Гары.

Манганыя наклады
Выпратваем.
Патрэбна больш рабочых,
Бо пласт адзін
Даў маху з плыткіх лядаў,—
Урыўся ў шчэбень,
І над мораст збочыў.

3. Случчына. Новыя рудні

Смокчуць глыбінную кроў.
Шыхам цымэнтавых студняў
Прагалак парэзаны скрозь.
Процьма жалеза ў нетрах.
Праца няспынна ідзе
Лашчаць пяшчотныя ветры
Плёны збытэчных надзей.

4. Вокаўскі лес. Цішыня

Струшчана енкам мэталю.
Волава глыбы зьвіняць,
Кроіцца грудзі аддаляў.
Багацьцяў зямных крышаны
З глыбечы горнем усхілаў.
Волава бляскам шкляным
Стромкае ўзгор'е укрыла.

5. Слуцкае Палесьсе.

Пад Слуцкім сонцам сёньня першы раз
Крывёй іскрыўся аскабалак медзі.
Паклад у глыбях нетравых заграз,
Шуканьні ўсё-ж змаглі яго дасьледзіць.

. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

Лятункі няўпынна у далеч імкнуць,—
Усё ім патрэбна руплівасьцю вызнаць
Іскрыстае Прышласьці сочаць вясну,—
Яна падыходзіць у строях барвізных.
Трывогаю нэрваў, запалам крыві
Ўзгадоўваем чула імпэтную веліч,
Каб плён у краіне маністамі зьвіс,
Каб строі агністай красы мільгацелі!

*) Цяпер над Лідшчынай туманны прыцем,
І радасьць скрышана на шматы трэсак:
Я-ж моцна ўпэўнены, што пройдзе гліца,—
Памкнецца навалач з ашорхлых „Kresów“.
Бярэсьця шыр і гмахі ўзьнёслай Вільні,
І сівы Горадзень, і нівы ў скрусе,
Ў змаганьні год зьліюцца няухільна,
Ў адзін майдан—Савецкай Беларусі.



**Акторскі колектыў разам з членамі Прэзыдыуму IX зьезду чыгуначнікаў у палацы культуры Казанскай чыгункі.**



**Зьлева направа: дырэктар БДТ2 В. Вольскі, прадстаўнік Комакадэміі З. Шамардзіна.
У другім раду: старшыня галоўмастацтва БССР І. Гурскі, мастак-архітэктар Г. Гольц, пастаноўшчык „Качагараў“ рэж. М. Міцкевіч.**

УС. ШЫДЛОЎСКІ

# ПЛЯМА НА КАЖУСЕ

АПАВЯДАНЬНЕ.

Ехалі па гразкай і вузкай вуліцы. На вуліцы ня было ні душы. Нізенькія хаткі паўяжджалі ў зямлю і няпрыветна пазіралі на вуліцу маленькімі акенцамі.

Выпадкова напаткалі адну кабету з вядром, якая ішла па ваду да гнілой абваленай студні.

Мотка спытаўся:

— Дзе тут, бабулька, сакратар ячэйкі жыве?

— Якая я табе бубулька. Хіба ня бачыш, што мне ўсяго 30 гадоў? А сакратара ячэйкі ў нас няма. Ёсьць толькі сакратар сельсавету,—адказала кабета,—і спрытна пабегла да студні.

Не дабіўшыся ад яе толку паехалі далей. Ледзь ня ў самым канцы вуліцы спыніліся каля невялічкай, але досыць прыгожай хаткі, над якою вісела шыльда, і з цемнаты выступалі белымі літарамі словы: „*Заямны сельскі савет*“.

Мотка саскочыў з возу, узьбег на ганак і рашчыніўшы нахлашч дзьверы ўвайшоў у хату.

За сталом сядзеў мужчына і нешта пісаў. Мотка падышоў бліжэй і спытаў:

— Дзе можна бачыць старшыню сельсавету?

— Ды гэта я буду. А вам навошта?—спытаў мужчына.

Мотка прыглядзеўся. Твар мужчыны быў укрыты ямінкамі ад восны. Чорныя шустрыя вочы сядзелі глыбока і, як зьвяркі, ускідалі погляд на Мотку.

— Нас 2-х чалавек брыгадзіраў. Прыехалі на бульбазагатоўкі... З местачковай комсамольскай ячэйкі,—адказаў Мотка.

— Брыгадзіры... Добра, вельмі добра. Адным нам цяжка. Вельмі добра што прыехалі—гаварыў з перадышкамі старшыня.

— Дзе нам можна будзе начаваць? Конь стаіць на вуліцы. Трэба-б паставіць куды.

— Усё зробім. Скажы няхай заяжджаюць на двор. Тут вельмі добры хлеў. Летась раскулачылі аднаго, дык хлеў цяпер сельсавецкі лічыцца. І дом гэты таксама сельсавецкі. Тут і начаваць можна будзе ў другой палавіне.

Заехалі на двор. Хурман Іцка выпраг каня і паставіў у хлеў. Закінуў яму ахапак канюшыны.

Потым усе трое пайшлі ў пакой, што быў насупроць канцэлярыі, і на разасланай на падлозе саломе ляглі спаць.

— Да пабачэньня—разьвітаўся старшыня і пайшоў дадому.

Глухая асеньняя ноч чорнай плямай павісла над заямнымі хатамі.

Раніцою першым прачнуўся Іцка. Пасьнедаўшы хлеба з варанай рыбаю, што палажыла яму жонка ў бавэльчык на дарогу, Іцка сказаў:

— Шчасьліва аставацца.

І паехаў дадому.

Мотка з Цішкам пайшлі ў канцэлярыю.

Там ужо сядзеў старшыня і, як толькі хлопцы пераступілі парог, ветліва прывітаўся:

— Ну, як спалася? Холадна, мусіць?

— А нічога...

Мотка пачаў распытваць пра ячэйку.

— Ячэйка ў нас малая—5 чалавек. Слабая яшчэ. Але хлопцы працуюць, як сьлед. Добра, што прыехалі, дапаможаце... З індывідуальнікаў цяжка спагнаць цьвёрдыя заданьні,—гаварыў старшыня і раз-по-раз пакашліваў. —Сёньня мы паедзем у Пруды, дзе палова гаспадарак з цьвёрдымі заданьнямі...

— Добра, добра... У бліжэйшыя дні трэба організаваць абоз бульбы. Сам ведаеш... Ленінграду 175.000 тон трэба даць...—гаварыў Цішка.

Старшыня згаджаўся.

У канцэлярыю ўвайшоў малады, высокі хлапец. Зімовая зайцагая шапка зьлезла на вушы. Ён сьмела падышоў да стала.

— Вось і наш сакратар ячэйкі—пазнаёміў старшыня Мотку і Цішку з увайшоўшым хлапцом.



Сакратара ячэйкі звалі Тодарам, але таму, што ён быў высокага росту, дык яго празвалі жартам Тодарка.

— Будзем бачыць, што Тодарка скажа.

— Пачакаем пакуль Тодарка прыдзе. — Так гаварылі, калі справа ішла аб якім-небудзь прынцыповым пытаньні. І Тодарка заўсёды гаварыў сваё важкае, аўторытэтнае слова. Яго слухалі. Старшыня сельсавету таксама да яго ішоў на параду, калі справа тычылася загатовак альбо ўшчэ чаго-небудзь, з чым зьвязана была значная работа.

Цішка сказаў Тодару па якім пытаньні яны прыехалі. Сказаў, што ячэйка вылучыла.

Тодар прыжмурыў вочы, з усьмешкай прагаварыў:

— Цяпер выканаем плян загатовак. Пакоціцца бульба з кулацкіх паграбоў.

Старшыня кашляў і паведамляў:

— Актыў у нас падрыхтаваны. Ёсьць людзі, на якіх можна абаперціся. Адно дрэнна, бязкультур'е і цемната вялікая. Кулакі арудуюць, дзе бачаць слабае месца.

— Справы пакажуць сваё—гаварыў Мотка.—Значыць, едзем сёньня?

— Трэба будзе нам чацьвярым ехаць. Хутчэй справу рушым

— Добра—згадзіліся Мотка і Цішка.

Мінулі лес. На ўзгорку паказалася вёска Пруды. Новыя драўляныя будынкі важна стаялі на кожным пляцы. Паводаль ад хатаў стаялі гумны з малатарнямі, над вёскаю ўзвышалася радыё-антэна.

— Гэта Мікіта Гардзееў паставіў сабе чатырохлямпавічок,—пракзаў старшыня.

— Паганая вёска. Летась тут забілі актывіста, члена сельсавету—дадаваў Тодар.

Конік убег у вуліцу і пакрочыў уздоўж яе. Спыніліся каля хаты члена сельсавету. Узьехалі на двор, а самі пайшлі ў хату.

Нізкі, шырокаплечы Мікола Бурачок, члена сельсавету, ласкава прыняў прыехаўшых і адразу сказаў жонцы прыгатаваць полудзень.

— Ну, як справы, Мікола, — спытаў ні то сурова, ні то з ласкаю старшыня.

— Ды вось як бачыш... З загатоўкамі дрэнь... Учора сход склікалі, дык ніхто не сабраўся. Індывідуальнікі арудуюць. Гавораць усім, што бульбу не рабочым пашлюць, а за граніцу туркам адправяць. Асабліва супроць загатовак выступае Мікіта Гардзееў.

Устаў з лаўкі сівы, але з сьветлымі гарачымі вачыма Клім.

— Мы бульбу адправім. Заўтра адвязем. Чырвоным абозам. Мы ўсе беднякі павязем. Толькі, вы, таварышы, павінны з кулакоў нашых удвая больш спагнаць, чым на іх налажылі. Бульба ёсьць...

Рызыходзіліся дамоў каля поўначы. Крычалі першыя пэўні. Мотка гаварыў:

— Барацьба... Клясавая барацьба... А бульбу мы загатуем поўнасьцю. Начавалі ў Міколы Бурачка. На саломе, на падлозе. Цішка доўга ня мог заснуць. Сход стаяў у галаве... Старшыня цяжка хроп на ўсю хату.

---

Назаўтра пайшлі да кулакоў, каб катэгарычна прапанаваць адвезьці бульбу.

Перш-на-перш зайшлі да Мікіты Гардзеева.

Новая, абстаўленая паўкругам на пляцы будоўля, абгараджвала двор. Хата на нямецкі вугал з белымі вокнамі вызначалася з усіх астатніх будынкаў.

Мотка пастукаў у вакно.

На двор вышаў сам Мікіта ў скрыпучых ботах і заківаў сваёй рыжай барадою.

— Як будзе з бульбаю?—запытаў старшыня.

— Я, што. Як усе... Савецкай уладзе, канешне, даць трэба. Ды вось заданьне вялікае... Бульба не ўрадзіла...

— Заўтра павінен адвезьці вызначаную норму. А калі не павязеш, мы пасьлязаўтра самі ўдвайне возьмем.

Сказалі, а самі пайшлі да другога. Ішлі цераз Мікітаў сад і ў Моткі пад нагамі задрыжала зямля, закалацілася, як др гва

— Стой, хлопцы, нешта ёсьць.

Мотка спыніўся і мацней страсянуў нагамі. Яшчэ больш задрыжала зямля. Прынесьлі рыдлёўку. Разрылі на вяршок зямлю. А там дошкі. А пад дошкамі захаваная бульба.

— Вось і загатоўкі...

— Кулацкія,—дадаў Цішка.

— Цягні Мікіту.

Прышоў Мікіта і паглядзеў на раскапаную яму.

— Гады!—вылаяўся ён.

— Гэта што,—запытаў старшыня.

— Сам бачыш, не павылазілі.

— Гэту бульбу мы забіраем. А заўтра ты павінен сваю норму адвезьці.

— А дзе-ж я вазьму?

— Знойдзеш. Ай-да, хлопцы, за хурманкамі. Да Бурачка зайдзеце.

Тодар і Цішка пайшлі за хурманкамі, а старшыня і Мотка засталіся каля ямы. Мікіта пайшоў у хату, лаючыся і плююючыся.

На 10 хурманак выгрузілі з ямы бульбу і адразу накіравалі на станцыю. А самі пайшлі далей.

Восень плявзлася надаедлівым дажджом. Глуха шумелі ліпы, што стаялі на мяжы Мікітавай сядзібы. Пахла мякінаю і сырымі дрывамі. Густа і нізка плылі над зямлёю хмары і здавалася, што яны вось-вось абваляцца, і прыдушаць зямлю.

На сумерках ішлі да апошняга індывідуальна-абкладзенага Ціта Бялёсага. Ішлі гумнамі, бо вуліца гразкая, непраходная.

Мотка задаволена гаварыў:

— ... Заўтра павязуць... як міленькія.

Тодар і Цішка дадавалі:

— А лоўка ты, брат, захаваную бульбу знаходзіш.

Мотка нічога на гэта не адказваў, а толькі ўсьміхаўся.

Шэрыя асеньнія сумеркі павісьлі над Прудоўскімі гумнамі. З саламяных стрэх сьцякалі кроплі дажджу і выбівалі пад капяжом глыбокія ямінкі.

Як толькі параўняліся з Цітавым манежам, грымнуў зладзейскі абрэзаны стрэл і глуха замоўк у балоце, якое пачыналася за гумнамі. Усе палахліва аглянуліся. Мотка схапіўся рукамі за грудзі і паваліўся. Старшыня спалохаўся і забегаў каля Моткі, які стагнаў і прыціскаў рукі да грудзей. Праз пальцы выцякала ліпкая кроў. Цішка прысеў на каленях над Моткам і тармашыў яго, а Тодар пабег у вуліцу склікаць людзей.

У мітусяніне ніхто не заўважыў, як з манежу вышаў з абрэзам Юрка і цераз гумны пайшоў на цянькі да Мікіты Гардзеева. Шэры змрок рабіў яго няпрыкметным сярод такой-жа зямлі і платоў.

Неўзабаве зьбегліся людзі да Моткі. У кожнага на твары выступаў спалох. Усе бегалі, меркавалі з чаго-б гэта і хто гэта. Некаторыя думалі, што гэта Ціт зрабіў, а Ціт рукамі і нагамі адмахваўся, што ён нават нічога ня ведае.

Мотку ўзялі на рукі і панесьлі да Міколы Бурачка. Кроў буйнымі кроплямі капала на зямлю. Крывавая пляма злавесна выступала на яго новым кажусе.

Натоўп пачаў разыходзіцца. Ніхто ня ведаў чый гэта стрэл. Толькі чуліся спагадлівыя ўздыхі кабет. І сярод уздыхаў нейчы голас:

— Так ім і трэба. Гэта замест бульбы.

— Маўчы гад!—вылаяўся Клім на Ціта, які праказаў гэтыя словы.

— Можа і табе давядзецца адказваць. А бульбу, ня думай, здасі...

Ціт змоўк і пайшоў у хату.

Куля прабіла Мотку рабро і папала ў лёгкія. Яго адразу ўбінтавалі чыстымі ручнікамі і палажылі на ложак. Рана была надзвычайна балючая і Мотка цяжка стагнаў. Каля яго шчыра слугавалі Мікола Бурачок і яшчэ больш яго жонка.

Старшыня з Цішкам пайшлі на сяло высьвятліць справу стрэлу. Далі тэрміновую тэлеграму ў райміліцыю. У вёсцы ўсе ўспалашыліся. Толькі і гаварылі, што аб стрэле на Цітавым гумне.

Некаторыя гаварылі з спачуваньнем. А некаторыя радаваліся, што бульбы цяпер браць ня будуць.

Калі вярнуліся старшыня і Цішка, Мотка прастагнаў:

— Бульба ёсьць у кулакоў... Яе трэба ўзяць... Ай-й... Ён працягнуўся, выпрастаў рукі, пазяхнуў, рашчыніў шырока вочы, потым сплюшчыў іх і сканаў

Цішка напісаў у ячэйку ліст аб сьмерці Моткі. Успомніў пра злавесную пляму на кажусе. Нават заплакаў, калі пісаў ліст і гарачыя кроплі ляглі плямамі на лісьце.

У канцы ён напісаў:

„А бульбу ўсё-ткі выканаем. Рабочыя Ленінграду атрымаюць наш доўг. А слаўна выкрываў кулацкую, захаваную бульбу Мотка“.

---

Назаўтра раніцою з Прудоў чырвоны абоз з бульбаю, у адказ на забойства Моткі пацягнуўся на станцыю. Наперадзе ўсіх ехаў Клім, сівы, але шустры дзядок. Каля дугі яго каня разьвяваўся чырвоны сьцяг, а на ім чорная істужка.

— У памяць па брыгадзіру,—гаварыў Клім.

І сярод ніводнай кулацкай хурманкі. Яны прыціхлі і чакалі што ўсё так пройдзе.

Даведаўшыся аб сьмерці Моткі ў ячэйцы вылучылі яшчэ 5 чалавек на загатоўку.

З раніцы старшыня разам з Тодарам і Цішкам абышлі зноў індывідуальнікаў. І заскрыпелі хурманкі, нагружаныя бульбай на станцыю. Мікіта Гардзееў, едучы на парцы сьпераду кулацкіх хурманак, гаварыў:

— Душу выматаюць, няма нашаму брату жыцьця. Нідзе ад іх не схаваешся.

У тумане хаваліся хурманкі з бульбаю і толькі чутны быў голас Мікіты:

— Але трасцу, усяго не знайшлі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз тыдзень Цішка вярнуўся ў ячэйку. Сто новых камсамольцаў спаткалі яго ў ячэйцы, здаровых, жыцьцярадасных. Яны заменяць дарагога, працавітага Мотку.

РК комсамолу ў гэты-ж дзень атрымаў з Заямнаўскай ячэйкі ад Тодара кароткую пісульку: „За апошнія дні ячэйка вырасла на 15 чалавек. Організуем ячэйку ў Прудах“.

Зімою Цішка спаткаўся з старшыною, які расказаў:

— Колектыў у нашай вёсцы організавалі. А забойцаў Моткі выкрылі. Мікіту Гардзеева і Юрку забралі і выслалі.

А Цішка гаварыў:

— На зьмену Мотку новыя сотні ўступілі ў рады комсамолу... У Заямным, у Прудах, у нас у мястэчку. Так... Новыя сотні.

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ

Фото РАБІНОВІЧА.



Буксірная брыгада рамшчыкаў хромавага цэха зав. „Бальшавік“.



„Бальшавік“.

Фото Л. МАЗЕЛЕВА.



Дэлегацыя нямецкіх рабочых на заводзе Імя Варашылава.



Прэзыдыум Усебеларускага зьезду колгасьніц.



У залі зьезду.

# ЯПОНСКІ імпэрыялізм у МАНЧЖУРЫІ

**Японія разгортвае захватніцкія опэрацыі ў Манчжурыі, рыхтуецца да далейшай окупацыі, адпраўляе ўсё новыя вайсковыя часьці ў Манчжурыю. Гэтым самым яна ўсё больш павялічвае небясьпеку новай імпэрыялістычнай вайны.**



Зруйнованы японцамі кітайскі горад Нан-Лін.



Японскі вайсковы абоз у Гірыне.



Трофэі японскіх окупантаў у Чань-Чуне.

# БІБЛІОГРАФІЯ

## ДРУКУЮЦЦА І ХУТКА ВЫЙДУЦЬ

### Літаратура і мастацтва.

**РАЙСІН.—„Непакорныя“.**

Апавяданьне разглядае вельмі цікавае пытаньне яшчэ не закранутае ў беларускай літаратуры, гэта так званая „Віленская трагедыя“, калі група комуністаў і комсамольцаў Вільні ў часе нападу белапалякаў, выкарыстаўшы ўсе сродкі абароны, прымушана была скончыць самагубствам. Аўтар імкнецца ў першую чаргу паказаць змаганьне віленскай моладзі і комсамолу, а таму апавяданьне будзе цікавым і карысным для кожнага комсамольца і юнака, таксама будзе чытацца з цікавасьцю і дарослым.

**БУЖАН ХВ.—„Лясьнікі“.**

Першая аповесьць пачынаючага аўтара малюе жыцьцё, працу і быт лясных работнікаў і сялян на лесаразработках. Гэта тэма ўпяршыню асьвятляецца ў беларускай літаратуры. Ня гледзячы на некаторую недаконачанасьць, апавяданьне цікавае. Напісана прыгожай мовай. Досыць цоўна ўскрыта клясавае змаганьне на лясным фронце.

**КУЗЬМІЧ В.—„Караблі“.** Перакл. з укр. мовы.

Кніга „Караблі“ належыць пяру аднаго з таленавітых украінскіх пісьменьнікаў нашае сучаснасьці—В. Кузьміча. Гады грамадзянскай вайны, барацьба нашага флёту супроць белагвардзейцаў і інтэрвэнцыі, цікавыя эпізоды гэтага часу—вось асноўны зьмест рэкомэндуемай кнігі.

**РАКІЦІН Н.—„Запіскі конармейца“.** Пераклад з расійскай мовы.

У кнізе „Запіскі конармейца“ аўтар расказвае, як прарабіў ён шлях ад афіцэра часу імпэрыялістычнае вайны да камуніста і камандзіра ў Першай коннай арміі.

Кніга насычана багатым фактычным матэрыялам аб паходах і бойках геройчнай арміі, аб яе слаўным баявым мінулым.

Кніга патрэбна тым больш, што мастацкая літаратура аб коннай арміі да гэтага часу бедна як колькасна гэтак і якасна.

### Маспартпалітсэнтар.

**ЖДАНАЎ Н. і ТАПЭХА Л.—„Японскі імпэрыялізм у Манчжурыі“.**

Брошура популярна перадае ўвесь комплекс пытаньняў, зьвязаных з апошнім таржэньнем японскага імпэрылізму ў Манчжурыю, даюцца некаторыя гістарычныя і географічныя спраўкі, таксама зьвесткі аб экономічным становішчы і прыродных багацтвах Манчжурыі, падкрэсьліваюцца інтарэсы, якія Японія мае ў Манчжурыі, і мэты зьвязаныя з захватам. Паказваюцца нарастаючыя супярэчнасьці сусьветнага імпэрыялізму на Далёкім Усходзе, барацьба іх за новы разьдзел Кітаю, пагроза, якая маецца для СССР, трэцяя сіла (кітайскі і японскі пролетарыят і сялянства), якая нарастае і вядзе барацьбу як з імпэрыялізмам (у першую чаргу з японскім), таксама са сваёй уласнай нацыянальнай буржуазіяй і Гоміндаңам.

**ЛАНЦУЦКІ СТ. „Успаміны“.**

Каштоўнасьць кнігі ў тым, што ў ёй адлюстроўваецца змаганьне польскага пролетарыяту з буржуазіяй у розныя пэрыяды (да імпэрыялістычнай вайны і пасьля вайны). Т. Ланцуцкі па шэрагу канкрэтных прыкладаў выкрывае здрадніцкую ролю ППС. У кніжцы адлюстраваны процэс росту ўплыву кампартыі на рабочыя масы Польшчы, да шэрагаў якіх усё больш далучаюцца масы рабочых і працоўнага сялянства, якое стогне пад ярмом памешчыкаў. Кніга дае малюнак нарастаючага процэсу змаганьня польскага пролетарыяту і працоўных мас за сваё вызваленьне ад капіталізму.

### Вайсковы сэктар.

**Як здаць іспыты на значок „Гатоў да працы і абароны“.**

Брошура зьяўляецца падручнічкам для кожнага фізкультурніка, жадаючага здаць нормы на значок „Гатоў к труду і абароне“, адказвае як нельга лепей на патрабаваньні фізкультурных організацый, бо зараз праходзіць перабудова зьместу ўсёй фізкультурнай работы на аснове комплексу мерапрыемстваў, высунутых па значку „Гатоў к труду і абароне“.

# ШАХМАТЫ № 9

## МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС ШАХМАТНЫХ ЗАДАЧ „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ“

Задача № 17

Дэвіз „У часе VII-га“



Мат у 2 хады

Задача № 18

Дэвіз „Комбайн“



Мат у 2 хады

Задача № 19

Дэвіз „Такія, няпрыкметныя...“



Мат у 2 хады

## VII УСЕСАЮЗНЫ ШАХМАТНА-ШАШАЧНЫ ЗЬЕЗД

### Турнір на пяршынство Чырвонай арміі і флёту

Турнір на пяршынство Чырвонай арміі і флёту, праведзены ў часе VII-га шах.-шаш. зьезду, значна розьніцца па складу ад мінулых. Калі раней у „чэмпіёнатах“ [1]) Чырвонай арміі іграў толькі начсклад, а чырвонаармейцаў амаль зусім ня было, то ў турніры гэтага году мы маем значны зрух да большай масавасьці.

Моладзь якая дабілася бліскучых посьпехаў у турніры на пяршынство СССР, сьвяткавала перамогу і тут. Пераможцам турніру вышаў чырвонаармеец тэрміновай службы т. *Разгільдзеев*, які паказаў вельмі добрую ігру. Другое месца заняў *Іарданскі*, ня раз быўшы пераможцам турніраў РСЧА. Чакалі што ён пераможа і тут, але ён адстаў ад Разгільдзеева на паўачка і праіграў яму, так што перамога Разгільдзеева бясспрэчна. Трэцяе месца заняў чырвонаармеец *Рэскін* (Маскоўскі гарнізон). Чацьвертае—прадстаўнік Чорнаморскага флёту тав. *Максіменка*. І толькі на пятым мы бачым былога майстра Смародзскага (КЧА).

*Першае* і трэцяе месца занялі ўпяршыню чырвонаармейцы. Гэта сьведчыць аб тым, што і тут мы маем вялізарнейшыя посьпехі, што мы бязупынна кроцым уперад. Ня ўсе ВА былі прадстаўлены ў гэтым турніры—ня было і БВА, а няўжо ня было каго паслаць?

---

## ПАРТЫЯ № 1. ФРАНЦУСКАЯ

### Іграна ў турніры на пяршынство СССР

KV тур—9 лістапада 1931 г.

Майстар Модэль — майстар Раўзэр
(Менск—БССР) — (Кіеў—УССР)

| | |
|---|---|
| 1. e2—e4 | e7—e6 |
| 2. d2—d4 | d7—d5 |
| 3. e4 : d5 | e6 : d5 |

Гэта так званы „разьменны варыянт“.

| | |
|---|---|
| 4. Cf1—d3 | кb8—c6 |
| 5. C2—c3 | cf8—d6 |
| 6. Kg1—e2 | |

Белыя іграюць на нічыю. Калі-б чорныя адказалі 6... Kg8 — f6, то пасьля—7. Cc1—f4 Cd6 : f4; 8. Ke2 : f4 становішча зусім роўнае, і аб выйгрышу чорным ня прыходзіцца і думаць. Таму яны іграюць:

| | |
|---|---|
| 6. . . . . | Фd8—f6 |
| 7. o—o | Kg8—h6 |
| 8. Ke2—g3! | o—o |

Замест гэтага, як указаў пасьля партыі Раўзэр, ён думаў з'іграць 8... Kh6—g4; 9. h2—h3, h7—h5, але падумаў:

— Усё добра, што добра канчаецца, і зрабіў ход прыведзены ў тэксьце, на што белыя адказалі:

9. Фd1—h5!

Пасьля гэтага ходу, чорным становіцца не па сабе і яны шукаюць выхаду ў разьмене єлана d6 на c1. Белыя-ж кажуць:—Калі ласка, але і фэрзя!

| | |
|---|---|
| 9. . . . . | Cd6—f4 |
| 10. Фh5—f3! | Cf4 : c1 |
| 11. Фf3 : f6 | g7 : f6 |
| 12. Лf1 : c1 | |

У чорных ужо праіграны канец. Партыя працягвалася:

| | |
|---|---|
| 12. . . . | f6—f5 |
| 13. Kb1—d2 | Cc8—e6 |
| 14. Лc1—e1 | Kpg8—g7 |
| 15. Kd2—f3 | Kpg7—g6 |
| 16. Лe1—l3 | a7—a6 |

З мэтай з'іграць 17... b7—b5 Белыя выкрылі хітрыкі чорных і паставілі цікавую пастку.

| | |
|---|---|
| 17. Лa1—e1 | b7—b5 |
| 18. Лe3 : e6+ | f7 : e6 |
| 19. Лe1 : e6+ | Лf8—f6 |
| 20. Лe6 : c6 | Лf6 : c6 |
| 21. Kf3—e5+ | Kpg6—f6 |

22. Ke5 : c6 і Раўзэр здаўся.

І хто пасьля гэтай партыі скажа, што Мазэль ня майстар.

## ЗАДАЧНАЯ ХРОНІКА

* * *

Абвешчан вынік усесаюзнага конкурсу складаньня двуххадовак Н. В. Шахсектара.

1 прэмію атрымаў Я. Камянецкі (Менск), 2-ю—Г. П. Калугін (Ленінград), 3-ю—Лашынскі і Умноў (Растоў на Дану), 4-ю—Я. Камянецкі.

* * *

*Да нашых конкурсаў.* Тэрмін дасылкі задач на міжнародныя конкурсы складаньня шахматных задач „Чырвонай Беларусі“—1-га лютага 1932 году.

## РАЗЬВЯЗКІ ШАХМАТ. ЗАДАЧ (Міжнародны конкурс)

*№ 7.* Дэвіз „Колектыўная“.

1. d6—d7 пагроза 2. d7—d8 Ф×

Чорныя могуць абараніцца ад пагражаючага мату, адчыненьнем сваіх дальнябойных фігур (фэрзя, ладзьдзі і слана). Але адчыняючы іх, яны перакрываюць іх-жа па іншым лініям.

Галоўныя варыянты:

1. . . . g7—g6 2. Фg2 : e4 × !
1. . . . C7—c5! 2. Лc3—d3 × !
1. . . . Cb6—a5! 2. Фg2—a2 × !

Гэта і ёсьць *тэма кляпана.*

Цікавы і пабочныя варыянты:

1. . . . Cb6—a4; 2. Ke6 : c7 ×
1. . . . C7—c6; 2. Cb5—c4 ×

*№ 8.* Дэвіз „Перамога“.

1. Лc5—c4! пагражае 2. Kd4—f5 ×

Як-жа абараніцца чорным?!

1. . . . Фh8 : f6! і нельга 2. Kd4—f5 з-за Фf6—d4 і мата няма. Але белыя карыстаюцца зьвязкай фэрзя і даюць мат 2. Фg8—b8 × !

1. . . . Cg5 : f6+! і нельга зноў; 2. Kd4—f5 з-за Cf6—d4 і мата няма. Але ня тут-та было мат ёсьць! 2. Kd4—b5 × ! дзякуючы таму, што поле g3 аднята белым фэрзем, а слон зьвязан. Гэтыя варыянты праводзяць тэму Шыфмана, якая формулюецца так: чорныя самазьвязваюцца яе матуючай белай фігурай. Але надзеі застаюцца надзеямі, белыя даюць мат, скарыстоўваючы зьвязку чорнай фігуры.

---

[1]) Так такія турніры раней называлі.

# ЗА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ ЖЫВЁЛАВОДЗТВА



ТАВАРЫШЫ КОЛГАСЬНІКІ, КУПЛЯЙЦЕ КНІЖКІ

СЕЛЬГАССЭКТАР ДВБ





| | Цана |
|---|---|
| 1. Старынскі. Як даглядаць каня | 15 кап. |
| 2. Хаванскія. Кабыла і жарабя | 15 " |
| 3. " Утрыманьне і выкарыстаньне каня | 40 " |
| 4. Найдзёнаў. Пабудова аборы для жывёлы | 10 " |
| 5. Сяргейчык і Крывадубскі. Роля трусагадоўлі ў вырашэньня мяснога пытаньня | 15 " |
| 6. М. Іваноў. Асновы кармленьня с.-г. жывёлы | 22 " |
| 7. Палескі П. Чарговыя задачы разьвіцьця сьвінагадоўлі ў колгасах БССР | 1 " |
| 8. Памятка сьвінару па догляду парасят | 1 " |
| 9. М. Дэмураў. Кармы для сьвіней | 30 " |
| 10. Круглоў. Работа пастуха жывёлавода ў калгасах і саўгасах | 25 " |
| 11. Навумаў. Гадоўля і выкармліваньне цялят | 15 " |
| 12. Арлоўскі. Організацыя групавога кармленьня кароў | 12 " |
| 13. Кароткая інструкцыя па тэхніцы сіласаваньня кармоў | 5 " |
| 14. Агеяў Л. М. Аб організацыі кармовай базы | 10 " |
| 15. Тавілдарава Т. Племяны бык | 23 " |
| 16. Драздоў. Культура канюшыны | 60 " |
| 17. Лебядзевіч. Культурная паша на асушаных балотах | 25 " |
| 18. Осіпава. Што павінна ведаць даільшчыца | 10 " |
| 19. Розенблюм. Організацыя сіласаваньня ў колгасах | 15 " |
| 20. Кіпрыянец. За вынаходзтва, рацыяналізатарства і масавыя догляды сьвінагадоўлі | 15 " |
| 21. Я. Варкуноў. Аб парадку скармліваньня і сіласаваньня кармоў | 3 " |
| 22. Іскроў. Выканаем пляны па сілосу | 10 " |
| 23. А. Зьвёзьдзіч. У паход за сілос | 15 " |
| 24. Л. Штрадт. Жывая фабрыка мяса | 13 " |
| 25. Кляменціч К. Да пастаноўкі досьледаў з буйнай рагатай жывёлай | 10 " |
| 26. Драздоў. Кармовыя расьліны ў занятых папарах і зімовыя культуры на корм і зерня | 50 " |
| 27. Клюеў. Тэхніка вядзеньня малочнай гаспадаркі | 80 " |
| 28. Карасьцелаў. Кукуруза ў колгасы на сілос | 7 " |
| 29. Маскалёў. Малочныя г-кі ў спажыў. паласе | 5 " |
| 30. Дзьмітрыеў. Азбука лугаўніцтва | 25 " |
| 31. Кісялёў. Сейце бабовыя расьліны | 5 " |
| 32. Клешчаўнікаў. Зялёныя ўгнаеньні | 10 " |
| 33. Фядотаў. Бабовыя, збожжавыя і ўкосныя расьліны | 20 " |
| 34. Зборнік. Тэхніку сьвінагадоўлі ў масы | 20 " |
| 35. Кудзінаў. Адзін з лепшых | 15 " |
| 36. Залескі. Разьмеркаваньне даходаў па працаднёх | 20 " |
| 37. Александраў. Першая дапамога ў няшчасных выпадках і раптоўных хваробах | 12 " |
| 38. Александраў. Першая дапамога буйнай рагатай жывёле | 12 " |
| 39. Самарокаў. Пільнуйце жывёлу ад заразы | 4 " |
| 40. " Кастрацыя жывёлы | 5 " |
| 41. Ліўшыц. Трыхіноз сьвіней і меры барацьбы з ім | 14 " |
| 42. " Хваробы сьвіней і меры барацьбы з імі | 15 " |
| 43. " Туберкулёз жывёлы | 25 " |
| 44. Ціон. Што трэба ведаць сьвінару па вэтэрынарыі | 15 " |

УСЯ БІБЛІОТЭЧКА КАШТУЕ
**8 РУБ. 24 КАП.**

**Кнігі прадаюцца ва ўсіх кнігарнях Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі, спажыўкоопэрацыі і Саюздруку.**

**Калі ў кнігарні ня будзе якіх-небудзь кніжак, дык шліце заказ „Кніга-поштай" па адрасу: Менск, Рог Савецкай і Ленінскай. Філіял ДВБ.**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 13. 7600 экз. Галоўлітбел № 1031.